Гродна
№11 (446),
29 мая 2016

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# РАСПАЧАЎ СЛУЖЭННЕ ГРОДЗЕНСКІ КАПІТУЛ



Калегія духоўных асоб пры біскупскай катэдры

***У свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара, адбылася ўрачыстая інсталяцыя Гродзенскага катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Казіміра. У яго склад увайшлі 17 канонікаў, сярод якіх 8 грэміяльных і 9 ганаровых.***

● працяг на с. 3

# ПАПА ФРАНЦІШАК ПРЫЗНАЧЫЎ АПОСТАЛЬСКАГА НУНЦЫЯ Ў БЕЛАРУСІ

***Ім стаў мансеньёр Габар Пінтэр. Аб гэтым 13 мая паведаміла Апостальская нунцыятура ў Рэспубліцы Беларусь.***

● працяг на с. 4



## Каляндар падзей

**31 мая**
Свята Адведзінаў НПМ.
Заканчэнне маёвага набажэнства.

**1 чэрвеня**
Пачатак чэрвеньскага набажэнства.
Сусветны дзень дзіцяці.

**2 чэрвеня**
Заканчэнне актавы Божага Цела.
Блаславленне дзяцей, а таксама кветак і зёлак.

**3 чэрвеня**
Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Сусветны дзень малітвы аб святасці святароў.

**5 чэрвеня**
Дзень бацькі ў дыяцэзіі.
Молімся ў інтэнцыі жывых і памерлых бацькаў.

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

**"Голас Евангелля"**

Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродна на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.

**"Сімвал веры"**

Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4". Чарговы выпуск – 7 чэрвеня ў 19.45, паўтор – 8 чэрвеня ў 9.00.

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**

Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродна, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Чэрвень**

За моладзь нашай дыяцэзіі.

Аб развіцці моладзевых душпастарстваў у парафіяльных супольнасцях.

Аб плённым перажыванні Сусветных дзён моладзі ў Кракаве і сустрэчы з папам Францішкам.

## Інтэрнэт-апытанне www.grodnensis.by

Ці лічыце Вы амаральным сужэнскае сужыццё ў грамадзянскім саюзе без касцёльнага шлюбу?

- так
- не
- залежыць ад сітуацыі
- цяжка сказаць

Выкажыся 

"Святасць – гэта шлях у прысутнасці Бога, якім павінен прайсці я". Папа Францішак

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### IX НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ
**Лк 7, 1–10**

Калі Езус скончыў сваю прамову да народа, Ён увайшоў у Кафарнаум. У аднаго ж сотніка захварэў і быў пры смерці слуга, якім ён даражыў. Пачуўшы пра Езуса, сотнік паслаў да Яго юдэйскіх старэйшын, каб папрасілі Яго прыйсці і аздаравіць ягонага слугу.

Тыя прыйшлі да Езуса і настойліва прасілі Яго, кажучы: "Ён варты, каб Ты зрабіў яму гэта, бо ён любіць наш народ і нават пабудаваў нам сінагогу". Езус пайшоў з імі.

І калі Ён быў ужо недалёка ад дому, сотнік паслаў сяброў сказаць Яму: "Пане, не турбуйся, бо я не варты, каб Ты ўвайшоў пад дах мой. Таму я не палічыў сябе вартым прыйсці да Цябе. Але скажы слова, і будзе здаровы слуга мой. Бо я таксама чалавек, падпарадкаваны ўладзе, і маю ва ўладзе жаўнераў. Кажу аднаму: «Ідзі», – і ён ідзе; другому: «Прыйдзі», – і ён прыходзіць; а майму слузе: «Зрабі гэта», – і ён робіць". Пачуўшы гэта, Езус дзівіўся яму і, павярнуўшыся да натоўпу, які спадарожнічаў Яму, сказаў: "Кажу вам: нават у Ізраэлі Я не знайшоў такой вялікай веры.

Калі ж пасланцы вярнуліся дадому, яны засталі слугу здаровым.

## ПРАЗ ПАКОРНАСЦЬ ДА АЗДАРАЎЛЕНЧАЙ МОЦЫ

Вера рымскага сотніка з'яўляецца прыкладам для нас – вучняў Хрыста. Яго словы мы паўтараем кожны раз, калі ўдзельнічаем у св. Імшы. А калі прыступаем да св. Камуніі, іх змест закранае ў нашых сэрцах найбольш чуллівыя струны веры: "Пане, я не варты...". Але, нягледзячы на чалавечую нягоднасць, Ён знаходзіць месца ў сэрцы кожнага.

Мы не здольны ацаніць плён Яго прысутнасці. Гэта стане магчыма толькі пасля завяршэння нашай зямной вандроўкі. Нягледзячы на гэта, мы перакананы ў Яго моцы, якая робіць нас здольнымі да жыцця Божых дзяцей: у духоўным здароўі і сярод сяброў, з якімі я магу ўслаўляць Бога за Яго велікадушнасць.

### X НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ
**Лк 7, 11–17**

Езус пайшоў у горад, які называўся Наін, і з Ім ішлі многія вучні Ягоныя і вялікі натоўп. Калі ж Ён наблізіўся да гарадской брамы, выносілі з яе памерлага, адзінага сына ў маці, якая была ўдавою. І шмат людзей з горада ішло разам з ёю. Убачыўшы яе, Пан злітаваўся над ёю і сказаў: "Не плач". І падышоўшы, дакрануўся да насілак. Тыя, хто нёс, спыніліся. І сказаў: "Хлопча, кажу табе, устань". Мёртвы сеў і пачаў гаварыць. І Езус аддаў яго маці ягонай. Усіх жа ахапіў страх, і славілі Бога, кажучы: "Вялікі прарок паўстаў сярод нас, і Бог наведаў свой народ".

## СЮРПРЫЗЫ, ЯКІЯ НЯСУЦЬ РАДАСЦЬ ЗБАЎЛЕННЯ

Так шмат разоў Пан Езус суцяшаў засмучаных і церпячых. Кожная Яго сустрэча з чалавекам, якога закранула нейкае няшчасце, заканчвалася аздараўленчай ласкай. Сляпыя атрымлівалі зрок, глухія – слых, хрымыя пачыналі хадзіць, пракажоныя адыходзілі ачышчанымі. Маці атрымала сына. І калі яна плакала, то ўжо толькі ад неапісальнай радасці.

Сведкі падзей пад Наінам былі здзіўлены і ўдзячны Пану Богу за знак Яго прысутнасці. Сёння Езус праз свой Касцёл працягвае сваю збаўчую місію. У святых сакрамантах няспынна паўтараецца Хрыстовае: "Не бойцеся!", Не плач!", "Супакой вам!".

Ці толькі згубленыя ў нашых штодзённых клопатах, прыглушаныя няспынным нараканнем над асабістым лёсам, мы зможам пачуць гэтае далікатнае, але эфектыўнае кліканне Езуса?

Касцёл жыве ў сваіх членах, у кожным з вучняў Хрыста: усе ахрышчаныя павінны ўсведамляць той бляск з раніцы ўваскрасення, які яны выпраменьваюць. Пан Езус умешваецца ў сітуацыі, на першы погляд безнадзейныя. Як у выпадку, апісаным у Евангеліі, Яго ўмяшанне заўсёды з'яўляецца радасным здзіўленнем. Каб вярнуць радасць чалавеку і пабудзіць яго да ўдзячнасці Пану Богу за веліч Яго дабрыні.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*



**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*

# Напоўніць сваё сэрца

*Святы Аўгусцін калісьці напісаў: "Клапаціся ў сваім сэрцы аб тым, што мілае Богу". А ці пыталіся мы калі-небудзь у сябе, што мілае Богу? Адказ відавочны: Пану Богу неабходна наша чыстае сэрца. Пакора робіць яго такім. Мы неаднойчы паўтараем словы псалма: "Ствары ўва мне, Пане, чыстае сэрца". Сэрца робіцца месцам сустрэчы з Хрыстом, месцам крыжовай ахвяры. У сучасным свеце хрысціянін мае вялікае заданне, якое заключаецца ў тым, каб не згубіць чалавечнасці, не страціць уласнае жыццё, а разам з Хрыстом крочыць наперад.*

З Езусам мы можам увайсці на нашую жыццёвую Галгофу, а таксама з Ім мы з'яднаемся ва ўваскрасенні. Варта напоўніць сваё сэрца Богам. Нагод для гэтага ў маі дастаткова. Прымаючы ўдзел у маёвых набажэнствах, мы запрашаем Маці Божую пасяліцца ў нашых сэрцах. У канцы мая перажываем Эўхарыстычны кангрэс і 25-годдзе існавання нашай дыяцэзіі. Гэтыя прыгожыя ўрачыстасці заканчваем працэсіяй Божага Цела. У гэты час новы нумар газеты ўжо выйдзе ў друк, таму пра кангрэс і юбілейныя ўрачыстасці можна будзе прачытаць у наступным нумары. А сёння давайце падумаем над чарговымі спосабамі напаўнення сэрца Богам.

Вера не павінна быць для нас як шведскі стол, з якога чалавек бярэ што хоча і калі хоча. У жыцці часам здараецца так, што мы прыходзім у касцёл тады, калі нам патрэбна ахрысціць дзіця, а пасля толькі перад Першай святой Камуніяй разам з дзецьмі ўспамінаем, чым з'яўляецца споведзь. Сакрамант сужэнства не вельмі нам патрэбны для жыцця, а пра канфірмацыю мы ўвогуле забываемся. Так не можа быць у нашым жыцці! Калі сэрца будзе пустым, народ таксама будзе пустым.

Кожны добра разумее, што пустое сэрца – мёртвае. Яно павінна быць напоўнена Богам: Хрыстом міласэрным, які прабачае нам грахі і дае самога сябе як хлеб вечнага жыцця ў Эўхарыстыі, а таксама ў іншых сакрамантах. Сакрамэнтальнае жыццё з'яўляецца найлепшай нагодай, каб напоўніць нашыя сэрцы.

Касцёл не ўскладняе чалавеку жыццё, а дапамагае выбраць правільны напрамак. Ён паглыбляе веру, што дапамагае нам вытрываць у гэтым складаным жыцці, знаходзячы яго сэнс. Памятаем аб тым, што ў сэрцы Касцёла знаходзіцца кожны з нас.

**Не дайма цывілізацыі смерці знішчыць нашае сэрца. Няхай Хрыстос там жыве і блаславіць нас. Напоўніць сваё сэрца Богам – найважнейшая задача нашага жыцця, якое варта пражыць добра і шчасліва. Касцёл дапамагае нам у гэтым. Чарговыя ўрачыстасці даюць нам магчымасць змяніць уласнае жыццё. Дык давайце выкарыстаем гэты шанс!**

# Касцёл Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі

ДЭКАНАТ
ЛІДА

***Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі***

## Ліда-Слабада



*Знешні выгляд святыні*

Парафія пад тытулам Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў гарадскім прадмесці Слабада была заснавана ў 1933 г. намаганнямі кс. Станіслава Мажэйкі. Так адрадзіўся тытул былой кармеліцкай святыні, якая некалі існавала ў Лідзе. Драўляны касцёл без стылёвых асаблівасцей пабудавалі на скрыжаванні вул. Райскай (цяпер Горкага) і Поўнай (не існуе). З таго часу святыня заўсёды дзейнічала, нават у савецкі перыяд, калі засталася амаль адзіным драўляным даваенным будынкам сярод новых цагляных і панэльных жылых пяціпавярховак. З 1922 г. пробашчу ў парафіі дапамагалі сёстры з Супольнасці Дачок Панны Марыі Беззаганай. Перад Другой сусветнай вайной парафія ў Слабадзе налічвала больш за 7000 вернікаў.

Касцёл уяўляе сабой дзвюхвежавую трохнефную базіліку. Цэнтральны неф пераходзіць у прэзбітэрый, алтарная сцяна якога мае невялікую трохгранную апсіду. Галоўны фасад фланкаваны груваcткімі чацверыковымі вежамі пад чатырохсхільнымі дахамі. Цэнтральны неф касцёла накрыты двухсхільным бляшаным дахам з вальмамі над тарцамі, бакавыя – аднасхільнымі з вальмамі над закрыстыямі. Касцёльны ўчастак абнесены драўлянай агароджай на бетонных слупках.

Інтэр'ер драўлянага касцёла, падзелены на тры нефы чатырма парамі слупоў і перакрыты падшыўной столлю (плоскай у цэнтральным нефе і схільнай паніжанай у бакавых). Яго ўпрыгожваюць тры алтары: галоўны з фігурай Найсвяцейшай Панны Марыі, левы бакавы – св. Юзафа (наверсе абраз Маці Божай Нястомнай Дапамогі) і правы – св. Антонія (наверсе абраз Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса). Над уваходам зроблены арганныя хоры на чатырох парах слупоў, але зараз яны не выкарыстоўваюцца.



*Галоўны алтар святыні*

У 1989 г. парафіяй сталі апекавацца айцы салезіяне. У 1993 г. пачалося будаўніцтва новага касцёла з чырвонай цэглы ў стылі неаканструктывізму 1980-х гг. паводле праекта, які да гэтага ўжо быў рэалізаваны ў г. Пётркаў-Трыбунальскі (каля Лодзі, Польшча), а тут быў адаптаваны лідскім архітэктарам Васілеўскім. У 1997 г. парафія перайшла пад дыяцэзіяльную юрысдыкцыю. 7 снежня 2002 г. новазбудаваную святыню асвяціў гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч.

Новы касцёл у Слабадзе – гэта трохнефная безапсідная святыня, перакрытая адзіным двухсхільным дахам з металачарапіцы. Да алтарнай часткі, утвараючы з касцёлам адзінае цэлае, далучаны двухпавярховы аб'ём парафіяльнага цэнтра. Галоўны фасад святыні вырашаны чатырма ромбападобнымі ў плане вежамі-пілонамі, з якіх левая ад уваходу трошкі вышэйшая за іншыя і ў ёй змешчана званіца. Касцёльны ўчастак абнесены металічнай агароджай на бетонных слупках.

Інтэр'ер новага касцёла падзелены на тры нефы чатырма парамі васьмігранных калонаў і перакрыты бетоннымі плітамі па маналітных бэльках. На алтарнай сцяне змешчана велічнае разьбянае Укрыжаванне, бакавыя нефы завершаны алтарнымі двух'яруснымі кампазіцыямі: злева – тытульная фігура Маці Божай Беззаганнага Зачацця і абраз св. Ганны наверсе, справа – св. Антонія і абраз Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса наверсе. Арганныя хоры абапіраюцца на чатыры пары бетонных слупоў.

# Распачаў служэнне Гродзенскі капітул

працяг са с. 1

### ІНСТАЛЯЦЫЯ КАПІТУЛА

Абрад інсталяцыі кафедральнага капітула быў здзейснены ў касцёле св. Францішка Ксаверыя падчас святой Імшы, цэлебраванай ксяндзамі біскупамі Аляксандрам Кашкевічам і Юзафам Станеўскім. Спачатку канонікі зачыталі Апостальскі сімвал веры, узгадваючы абавязак вызнавання веры згодна з вучэннем Касцёла. Затым, ускладваючы рукі на Святое Пісанне, склалі прысягу вернасці.

Наступнай часткай інсталяцыі было асвячэнне кананічных знакаў годнасці. Ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч урачыста ўсклаў іх на грэміяльных канонікаў. Элементам абраду інсталяцыі было займанне канонікамі сваіх месцаў у лавах катэдральнай базілікі.

Напрыканцы інсталяцыі выступіў дэкан капітула ксёндз Генрых Яблоньскі. Ён падзякаваў біскупу за аказаны давер да выбраных святароў і звярнуў увагу прысутных на тое, што "гэта не толькі адрозненне, але і абавязацельства". Дэкан капітула назваў прызначаных канонікаў "апекунамі цудоўнай традыцыі" і паабяцаў ад імя ўсіх членаў капітула годна служыць Богу, Касцёлу і біскупу.

На заканчэнне святой Імшы ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч удзяліў пастарскае благаслаўленне вернікам, якія прыйшлі раздзяліць радасць інсталяцыі капітула.

### РОЛЯ КАПІТУЛА Ў ДЫЯЦЭЗІІ

Капітул – гэта група святароў, т. зв. канонікаў, якія ўтвараюць сенат біскупа. Згодна з Кодэксам кананічнага права, задачай капітула з'яўляецца праведзенне найбольш урачыстых літургічных падзей у катэдральным або калегіяльным касцёле. Гэты старажытны прававі інстытут увасабляе клопат Касцёла аб справах культу і падтрымлівае біскупскую адміністрацыю ў якасці сената і рады.

Тытул каноніка святары атрымліваюць пажыццёва ў знак падзякі за заслугі перад Касцёлам. Грэміяльныя канонікі (у адрозненні ад ганаровых) надзяляюцца пэўнымі правамі і абавязкамі. І толькі грэміяльныя канонікі маюць права актыўнага і пасіўнага голасу на сходах капітула ў якасці кансультатыўнага органа біскупа.

Права на заснаванне капітула дае Святы Пасад. Унутраную структуру і статут распрацоўвае дыяцэзіяльны біскуп. На сённяшні дзень катэдральны капітул існуе ў Віцебску, раней існаваў у Магілёве і Мінску.

Гродзенскі катэдральны капітул Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Казіміра быў заснаваны паводле норм кананічнага права са згоды Апостальскай Сталіцы ў 2012 годзе. У сакавіку бягучага года ў будынку гродзенскай курыі ксёндз біскуп Аляксандр Кашкевіч агучыў прозвішчы святароў, якіх прызначыў канонікамі, і ўручыў ім дэкрэты. У маі ж адбылася ўрачыстая інсталяцыя.

Назва капітула як бы спалучана з дзвюх частак: першая спасылаецца на тытул старэйшага на нашых землях касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі (Фара Вітаўта), другая – на заступніка дыяцэзіі святога Казіміра Каралевіча.

Капітул клапоціцца аб правільным і згодным з літургічнымі нормамі адпраўленні набажэнстваў.

"Адной з нашых задач з'яўляецца распаўсюджванне культу Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, тытул якога мае капітул,– падкрэслівае дэкан капітула ксёндз Генрых Яблоньскі. – Таксама мы будзем працаваць над прэзентацыяй і распаўсюджваннем у дыяцэзіі дакументаў Святога Пасада".

### ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ КАНОНІКАЎ

Абавязкі канонікаў акрэслівае Кодэкс кананічнага права, статут Гродзенскага катэдральнага капітула, а таксама дыяцэзіяльны біскуп.

Канонікі павінны ўдзельнічаць у літургічных працэсіях у час святых дзён літургічнага года. Статуты абавязваюць іх ужываць адпаведныя харавыя ўборы, рэгулярна адпраўляць Імшу пад кіраўніцтвам біскупа, клапаціцца аб якасці літургічных прылад і, урэшце, дбаць пра матэрыяльную аснову Божага культу.

Згодна з артыкулам 28 статута Гродзенскага катэдральнага капітула Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Казіміра, члены капітула павінны прымаць удзел у агульнадыяцэзіяльных набажэнствах, якія ўзначальвае гродзенскі біскуп у катэдральнай базіліцы і ў іншых касцёлах дыяцэзіі. Канонікі, якія служаць не на тэрыторыі біскупскага горада, удзельнічаюць у набажэнствах, калі ім дазваляюць душпастарскія абавязкі ва ўласных парафіях.

Асноўным абавязкам членаў капітула з'яўляецца згоднае з ідэаламі святарскай дасканаласці жыццё праз бесперапыннае паглыбленне хрысціянскай, інтэлектуальнай, духоўнай і пастарскай фармацыі.

### ЗНАКІ ГОДНАСЦІ

Знешнім знакам прыняцця канонікам функцый з'яўляецца атрыманне з рук ксяндза біскупа знакаў годнасці. Канонікам належыць харавы ўбор, крыж і месца ў лаве катэдральнай базілікі.

Харавы ўбор Гродзенскага капітула складаецца з чорнай сутаны з фіялетавай абшыўкай і такімі ж гузікамі, фіялетавай накідкі і пояса, чорнага берэта з фіялетавым кутасікам, а таксама белай комжы з рукавамі фіялетавага колеру.

Яшчэ адзін знак годнасці грэміяльных канонікаў Гродзенскага капітула – у выглядзе крыжа: на адным баку з выявай святога Казіміра, на другім – з выявай Маці Божай Унебаўзятай з надпісам "Capitullum Grodnense". На падвойным ланцужку змешчаны герб Гродна, які быў нададзены гораду згодна з магдэбургскім правам у 1496 годзе. На блакітным фоне – алень святога Губерта. Знак годнасці з'яўляецца ўласнасцю капітула і належыць толькі грэміяльным канонікам.

Месца ў лаве катэдральнай базілікі азначае, што канонікі маюць асаблівую еднасць з гэтым касцёлам і абавязваюцца развіваць у ім літургічнае і душпастарскае жыццё пад кіраўніцтвам дыяцэзіяльнага біскупа.

*Ангеліна Пакачайла*



Сімвал веры нагадаў прысутным аб паглыбленні праўдаў веры

**ГРОДЗЕНСКІ КАПІТУЛ З'ЯЎЛЯЕЦЦА КАЛЕГІЯЙ ДУХАВЕНСТВА, ЯКАЯ ІСНУЕ ПРЫ БІСКУПЕ ЯК ДАРАДЧЫ ОРГАН. У ЯГО СКЛАД УВАХОДЗЯЦЬ 17 КАНОНІКАЎ.**

**Грэміяльныя канонікі:**

- **Кс. Генрых Яблоньскі** *(дэкан капітула)*
- **Кс. Ян Кучынскі** *(цырымонііймайстар)*
- **Кс. Уладзімір Гуляй** *(тэолаг)*
- **Кс. Юзаф Багдзевіч** *(кусташ)*
- **Кс. Антоній Грэмза** *(сакратар)*
- **Кс. Цэзарый Міх** *(пэнітэнцыярый)*
- **Кс. Рычард Якубец**
- **Кс. Ян Пузына**

**Ганаровыя канонікі:**

- **Кс. Юзаф Ханьчыц**
- **Кс. Чэслаў Паўлюкевіч**
- **Кс. Ян Пецюн**
- **Кс. Станіслаў Пацына**
- **Кс. Алег Дуль**
- **Кс. Аляксандр Сасноўскі**
- **Кс. Віктар Веліўс**
- **Кс. Людвік Станішэўскі**
- **Кс. Люцыян Радомскі**



Найважнейшай часткай цырымоніі стала прысяга на Бібліі



Грэміяльныя канонікі атрымалі з рук біскупа асаблівыя знакі годнасці

### ШТО ДЛЯ ВАС ЗНАЧЫЦЬ БЫЦЬ КАНОНІКАМ?

***Кс. Ян Кучынскі, грэміяльны канонік***

*Гэта не толькі радасць ад прысвоенага звання, але, перадусім, адказнасць. Ты ўсведамляеш: зараз з'яўляешся прадстаўніком дыяцэзіі на нейкім новым узроўні. Радасна, што ў нас з'явіўся катэдральны капітул. Гэта дапаўняе структуры дыяцэзіі і падкрэслівае значнасць і важнасць нашай дыяцэзіі ў структуры Касцёла.*

***Кс. Антоній Грэмза, грэміяльны канонік***

*Для мяне гэта такі дар Касцёла, які выражае абавязак да яшчэ большага служэння Божаму Касцёлу і дыяцэзіяльнаму біскупу, які ўзнагародзіў мяне гэтым тытулам. Як заклікаюць статуты капітула, канонік павінен усведамляць адказнасць свайго звання і яшчэ больш аддана служыць Богу і людзям праз пастарскае развіццё і клопат пра вернікаў.*

***Кс. Цэзарый Міх, грэміяльны канонік***

*Тытул каноніка з'яўляецца найвышэйшай адзнакай у дыяцэзіі, якую біскуп можа даць ксяндзу. Гэта вялікі гонар, прызнанне, але ў той жа час і заданне. На мяне як пэнітэнцыярыя ўскладзены абавязак спавядання і адпушчэння вернікам тых грахоў, якія можа адпусцаць ксёндз біскуп. Ніколі не чакаў, што атрымаю такое прызнанне і адначасова вялікі абавязак прымірэння Бога і людзей.*

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Быць хрысціянінам – азначае, перш за ўсё, не прыналежнасць да пэўнай культуры ці паслушэнтва пэўнай дактрыне, а, хутчэй, злучэнне свайго жыцця ва ўсіх яго аспектах з асобай Езуса, а праз Яго – з Айцом. З гэтай мэтай Езус абяцае спасланне Святога Духа на сваіх вучняў. Менавіта дзякуючы Святому Духу, Любові, якая злучае Айца і Сына і паходзіць ад Іх, мы ўсе можам жыць жыццём самога Езуса. Дух навучае нас неабходнай рэчы – любіць так, як любіць Бог.*

*"Regina Caeli" са Святым Айцом, 15.05.2016*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Калі мы паглядзім уважліва на сучасны свет, то з лёгкасцю заўважым, які ён нешчаслівы, як моцна патрэбны яму супакой. Гаворка ідзе не толькі аб такіх няшчасцях, як войны, стыхійныя бедствы, тэрарызм, злачыннасць, беднасць, сацыяльная няроўнасць. Нешчаслівыя таксама і грамадствы, якія не ведаюць войнаў, жывуць у дабрабыце, прагрэсе, цешацца найноўшымі дасягненнямі навукі і тэхнікі. У многіх багатых, добра развітых краінах статыстыка паказвае пастаянны рост лічбы самазабойстваў, дэпрэсій, розных залежнасцей. Прычыны гэтага розныя, але адна з іх, магчыма, найважнейшая – тое, што сучасны чалавек часта адварочваецца ад Бога, забывае аб Ім або ў пысе і асляпленні думае, што Бог яму не патрэбны, бо ён у стане сам, без Бога збудаваць сабе рай на зямлі.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас Дыяцэзіяльных дзён моладзі ў Мастах*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Калі мы навучымся прабачаць у сям'і, то падобна будзем рабіць і ў жыцці. Можа, некаторыя скептычна ставяцца да такой прапановы, але яна выпрабавана жыццём. Святы Айцец Францішак кажа, што кожны акт прабачэння змацоўвае сцены сямейнага дома, які патрэскаліся. Практыка прабачэння ў сям'і не толькі лечыць саміх яе членаў, але і чыніць іх здольнымі дапамагаць грамадству на шляху да дасканаласці, каб яно было лепшым.*

*Здольнасцю прабачыць сям'я не толькі ратуе сябе, але і ўносіць бясцэнны ўклад у сведчанне аднаўляючай моцы Божай міласэрнасці і прабачэння.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас св. Імшы на I Кангрэсе сямейных рухаў*




◆ *Святы Айцец Францішак прыняў адмову б-па Антонія Длугаша ад выканання паслугі дапаможнага біскупа Чанстахоўскай архідыяцэзіі ў сувязі з дасягненнем ім пенсіённага ўзросту. Падчас сваёй шматгадовай працы іерарх займаўся катэхетычнай, дыдактычнай, навуковай, грамадскай і публіцыстычна-медыйнай дзейнасцю. Шмат увагі біскуп удзяляў рэлігійнай фармацыі маладых вернікаў.Як сцвярджае, у сваёй паслузе ён выконваў заклік Пана Езуса: “Дазвольце дзецям прыходзіць да мяне”.*

◆ *З нагоды Надзвычайнага юбілею міласэрнасці ў рымскім палацы старога вікарыяту адкрылася ўнікальная выстава “Peregrinatio Sancta”. На ёй прадстаўлена калекцыя юбілейных бул: пачынаючы з самай першай, падпісанай у 1300 годзе папам Баніфацыем VIII, да выдадзенай папам Янам Паўлам II у 2000 годзе. Кожны дакумент суправаджаецца інфармацыяй, якая тлумачыць гістарычны кантэкст юбілейнага года. Каштоўныя паперы ўпершыню дэманструюцца публічна. Экспазіцыя будзе адкрыта да канца ліпеня.*

◆ *Пачалося аднаўленне самай высокай у свеце статуі Хрыста, Валадара Сусвету, у Свебодзіне. “Фігуры не пагражае ніякая небяспека, мы проста хочам вярнуць ёй першапачатковае характва”,– тлумачыць кс. Ян Раманюк, кусташ санктуарыя Божай міласэрнасці, на тэрыторыі якога стаіць вялізная статуя. Працы павінны скончыцца да 8 ліпеня. “Мы б хацелі, каб перад урачыстасцямі Сусветных дзён моладзі ў дыяцэзіях у Свебодзіне ўсё ўжо было гатова”, – кажа святар.*

◆ *За апошнія пяць гадоў колькасць абортаў у Расіі панізілася на 24,5%. “Гэта стала магчымым дзякуючы кансультаванню для жанчын, што чакаюць дзіця”, – паведаміла міністр аховы здароўя Вераніка Скварцова. Паводле яе слоў, псіхалагічная падтрымка для цяжарных жанчын у выглядзе кансультавання і арганізацыі “перадабортных” кансультацый у гінекалагічных кабінетах і радзільных дамах паўплывала на скарачэнне колькасці “працэдур”. Дзякуючы гэтаму, нарадзілася 67 тысяч дзяцей, якія былі пад пагрозай аборту.*

◆ *Першая мусульманка, якая здабыла тытул Міс Злучаных Штатаў, перайшла з ісламу ў каталіцызм. Рыма Факіх, якая паходзіць з ліванскай сям’і, атрымала карону найпрыгажэйшай амерыканкі ў 2010 годзе. Перад шлюбам з музычным прадзюсарам Васімам Салібам, Факіх была ахрышчана ў мараніцкім Касцёле, адзіным з каталіцкіх Касцёлаў, які дамінуе ў Ліване. Дарэчы, яе сястра таксама выйшла замуж за хрысціяніна. На хрысціянства навярнуўся і яе дзядзька, які цяпер з’яўляецца ксяндзом.*

*credo-ua.org; gosc.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# Папа Францішак прызначыў Апостальскага нунцыя ў Беларусі

● *працяг са с. 1*



**Мансеньёр доктар Габар Пінтэр**

Да гэтага часу ён займаў пасаду дарадцы Апостальскай нунцыятуры ў Аўстрыі.

Нарадзіўся 9 сакавіка 1964 года ў Венгрыі. Прэзбітэрскае пасвячэнне прыняў 11 чэрвеня 1988 года. З’яўляецца прэзбітэрам дыяцэзіі Ваца (Венгрыя). З 1 ліпеня 1996 года знаходзіцца на дыпламатычнай службе Апостальскай Сталіцы. Працаваў у Гаіці, Балівіі, Скандынавіі, Францыі, на Філіпінах і ў Аўстрыі. Валодае венгерскай, нямецкай, італьянскай, англійскай, французскай, іспанскай, крэольскай, шведскай і рускай мовамі.

Новы нунцый прыедзе ў Беларусь у бліжэйшы час.

***У нядзелю Спаслання Святога Духа праз пасрэдніцтва Ватыканскага радыё новы нунцый скіраваў да беларусаў прывітальнае слова.***

*“...Гэта вялікі гонар і задавальненне для мяне мець магчымасць прадстаўляць Святога Айца ў вашай цудоўнай краіне, сярод гэтага высакароднага народа, у Касцёле, так драматычна пацярпелым і ў той жа час настолькі жывым.*

*Той факт, што я паходжу з Венгрыі і таму ведаю рэальнасць камуністычнага мінулага, несумненна, дапаможа мне лепш зразумець актуальную сітуацыю Касцёла і грамадства ў Беларусі.*

*Я быў вельмі рады атрымаць інфармацыю пра выдатнае супрацоўніцтва паміж каталіцкім Касцёлам і праваслаўнай Царквой, што многія лічаць мадэллю экуменізму. Для мяне будзе прыярытэтам развіццё і паглыбленне гэтага братняга і сапраўднага хрысціянскага суіснавання.*

*У пачатку ліпеня ў Будславе будзе адзначацца 25-я гадавіна ўстанаўлення Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, што стала сімвалам адраджэння каталіцкага Касцёла ў Беларусі. На жаль, я не змагу прысутнічаць сярод вас фізічна, але буду там духоўна і ў сваіх малітвах.*

*Я прашу вас шмат маліцца за мяне ў бліжэйшыя месяцы, падчас якіх я буду рыхтавацца з вялікай радасцю і шырока адкрытым сэрцам, каб у бліжэйшы час сустрэць вас з жаданнем быць вашым братам, які падтрымлівае вас у веры, міласэрнасці і надзеі”.*

**Крыху з гісторыі**

Дыпламатычныя адносіны паміж Беларуссю і Ватыканам былі ўсталяваны больш за 23 гады таму. 11 лістапада 1992 года папа Ян Павел II выдаў Апостальскую грамату “Qvantam tandem” аб заснаванні Апостальскай нунцыятуры ў Рэспубліцы Беларусь. У ёй выказана жаданне, каб сумесныя рашэнні прыносілі “вялікую карысць для касцёльных і грамадзянскіх спраў”.

За гэты час Святы Пасад у нашай краіне прадстаўлялі шэсць Апостальскіх нунцыяў. Як склалася далейшае служэнне папскіх дэлегатаў пасля дыпламатычнай службы ў Беларусі?



**1993–1994**
***Кс. абп Габрыэль Мантальва Ігера***

*Быў накіраваны ў ЗША, дзе служыў у якасці Апостальскага нунцыя і пастаяннага назіральніка пры Арганізацыі амерыканскіх дзяржаў у Вашынгтоне. У снежні 2005 года выйшаў на пенсію. Праз восем месяцаў памёр у Рыме.*



**1994–1996**
***Кс. абп Агосціна Маркета***

*Працаваў у Дзяржаўным сакратарыяце Ватыкана. Быў пастаянным назіральнікам Апостальскай Сталіцы пры арганізацыях і спецыялізаваных установах ААН у Рыме. З’яўляўся сакратаром Папскай рады па справах пастарскай апекі над мігрантамі і вандроўнымі. З 2010 года знаходзіцца ў адстаўцы.*



**1996–2001**
***Кс. абп Дамінік Грушоўскі***

*Служыў дарадцам аддзела па адносінах з дзяржавамі свету Дзяржаўнага сакратарыята Ватыкана. Быў членам Папскага камітэта па міжнародных эўхарыстычных працэсах. У 2007 годзе выйшаў на пенсію.*



**2001–2004**
***Кс. абп Іван Юркавіч***

*Быў прызначаны Апостальскім нунцыем ва Украіне, затым – у Расіі. Да нядаўняга часу з’яўляўся прадстаўніком Папы ва Узбекістане (па сумяшчальніцтве). З 2016 года – пастаянны назіральнік Апостальскай Сталіцы пры аддзяленні і спецыялізаваных установах ААН у Жэневе і Сусветнай гандлёвай арганізацыі.*



**2004–2011**
***Кс. абп Марцін Відавіч***

*Нунцый без дыпламатычных функцый.*



**2011–2015**
***Кс. абп Клаўдыа Гуджэроці***

*З канца мінулага года прадстаўляе Святы Пасад ва Украіне.*

***Ангеліна Пакачайла***



# Да Хрыста праз Марыю

**Месяц май у каталіцкім Касцёле для ўсіх вернікаў з’яўляецца часам, прысвечаным Марыі, Маці Хрыста. У касцёлах, капліцах і каля прыдарожных крыжоў адбываюцца маёвыя набажэнствы. А ў Гродне ў парафіі Божай Міласэрнасці вось ужо на працягу васьмі гадоў існуе група “Рух Марыі”. Кожную нядзелю яна збірае моладзь і дзяцей, якія жадаюць служыць Маці Божай.**

Супольнасць створана спадаром Алегам Гарбачовым 8 верасня 2008 года з мэтай пашырэння марыйнага культу ў парафіі, горадзе і ўсёй Беларусі. Першапачаткова ўдзельнікаў было няшмат, не хапала месца для правядзення сустрэч. А праз некаторы час рух стаў пашырацца. Усё больш людзей даведвалася пра супольнасць. З’явіліся нават духоўныя ўдзельнікі на Камчатцы і ў ЗША. Яны моляцца за супольнасць, аднаго разу прыязджалі адведаць групу. Зараз у касцёле для сустрэч выдзелена два пакоі.

Члены групы разам ходзяць на святую Імшу, прымаюць удзел у літургіі слова, складаюць малітвы да Маці Божай. Пасля вяртаюцца ў пакой пры касцёле, дзе займаюцца рознымі заняткамі, якія ніколі не праходзяць аднолькава. Кіраўнік таварыства спадар Алег заўсёды цікава распавядае пра Марыю, святых, значнасць дароў Эўхарыстыі, важнасць добрых учынкаў і шмат яшчэ чаго іншага. Падчас сустрэч ладзяцца розныя майстар-класы, конкурсы, настольныя гульні, прагляды фільмаў. Развучваюцца песні, з салодкім сталом адзначаюцца Дні нараджэння ўдзельнікаў і розныя святы. У цёплую пару года на тэрыторыі касцёла праводзяцца рухомыя гульні і конкурсы малюнкаў на асфальце. Члены групы ездзяць летам на экскурсіі па Беларусі, у розныя паездкі. Дзеці штогод адпачываюць на “Канікулах з Богам” пры падтрымцы гродзенскага “Карытас”.

Рух мае двух заступнікаў – святога Францішка і святога Яна Паўла II. Праз сваю беднасць, адмову ад зямных даброт, любоў да прыроды святы Францішак набліжаўся да Бога. Ён ведаў вялікую моц сардэчнай малітвы, што вядзе да сапраўднай любові. Сваім прыкладам ён вучыць таму, што для таго каб стаць шчаслівымі, патрэбны не матэрыяльныя даброты, а шчырая малітва і любоў да бліжняга. Менавіна таму дэвіз таварыства – “За Езусам і Марыяй шляхам святога Францішка Асізскага”.

Ян Павел II – святы нашага часу. Бацькі сучаснай моладзі з’яўляюцца яго пакаленнем, многія нарадзіліся падчас пантыфікату святога. Захоўваючы асноўныя каноны веры, Ян Павел II прызнаў дасягненні навукова-тэхнічнага прагрэсу і даказаў здольнасць каталіцкага Касцёла развівацца разам з цывілізацыяй. Ён вучыў праяўляць любоў і міласэрнасць да акружаючых і адкрываць сваё сэрца на Бога.

Большую частку групы складаюць дзеці, ёсць таксама моладзь і дарослыя. Старэйшыя заўсёды дапамагаюць малодшым, паказваюць ім станоўчы прыклад. Для дзетак “Рух Марыі” – праява любові да Маці Божай, сумешчаная з цікавымі гульнямі, а для дарослых – служэнне, зварот да Езуса праз дапамогу Яго Маці. Важна ўсведамляць важнасць шанавання Марыі. Калі пайсці праз Яе да Хрыста, то ўжо ніколі не апынешся ў адзіноце: любячая Маці не пакідае сваіх дзяцей адных.

Асноўная мэта “Руху Марыі” – дапамагаць Марыі ратаваць душы праз малітву, нястомна праслаўляць сэрца Божай Маці і набліжаць людзям Бога праз добрыя словы і ўчынкі.

Суполка стала для ўдзельнікаў другім домам, дзе ўвесь час пануе атмасфера адзінства і любові, дзе табе заўсёды дапамогуць і падбадзёраць. Члены групы бясконца ўдзячныя за прыклад жыцця, дапамогу і магчымасць далейшага развіцця руху сваім духоўным настаўнікам–ксяндзам сэрцанам (асабліва ксяндзу Эдуарду Сінкевічу SCJ).

***Марыя Янкевіч***

**“Рух Марыі” з радасцю прымае новых удзельнікаў. Ім можа стаць любы жадаючы. Узрост неабмежаваны. Сустрэчы адбываюцца кожную нядзелю з 12.00 да 16.00 (акрамя летняга перыяду) пры касцёле Божай Міласэрнасці ў Гродне ў пакоі на цокальным паверсе.**

# Сужэнства – святы саюз, дзе не месца забабонам



**Лета – гарачы час для вяселляў. Шчаслівыя маладыя пары, якія збіраюцца ажаніцца, да драбніц прадумваюць вясельныя цырымоніі і з нецярплівасцю чакаюць шлюбу, каб злучыць свае сэрцы ды прысягнуць перад святаром і Усявышнім шчыра кахаць адзін аднаго, разам дзяліць радасць і бяду, жыць ва ўзаемапаразуменні. Аднак, як жа часта ўрачысты дзень нараджэння новай сям'і азмрочваецца забабонамі і прыкметамі.**

Тэме вясельных прыкмет і павер'яў прысвечана мноства публікацый не толькі ў друкаваных выданнях, але і на прасторах інтэрнэту. Асаблівую папулярнасць яны маюць сярод нявест, іх мам, сяброваў і будучых свякровак. Тыя старанна вывучаюць "забабонную літаратуру", каб пасля распрацаваць цэлую пакрокавую інструкцыю: што можна і чаго нельга рабіць маладым падчас шлюбу. Асабліва прыкра, што веруючыя людзі таксама часта грашаць тым, што акцэнтуюць сваю ўвагу на цалкам бессэнсоўных рэчах, машынальна і бяздумна падпарадкоўваюць сваё жыццё нейкім павер'ям і прыкметам. Відаць, яны моцна закараніліся ў свядомасці.

Маладыя пары, якія вешаюць замочкі са сваімі імёнамі на парэнчах маста, – гэта звычайная карціна выхаднога дня, калі ў горадзе тлумна ад вясельных картэжаў. З аднаго боку, у рамантычнай традыцыі, якая карыстаецца папулярнасцю ва ўсёй Еўропе, няма нічога дрэннага. Але з іншага боку, маладажоны выглядаюць крыху дзіўна: яшчэ некалькі хвілін таму яны давалі клятву перад Богам, а зараз быццам падмацоўваюць яе ў гарадскім парку. Складваецца ўражанне, што менавіта ад рытуалу замыкання замка наўпрост залежыць захаванне сужэнскай вернасці і любові. Але ці можа сапраўдны хрысціянін надаваць лёсавызначальную ролю звычайнаму кавалку жалеза і адначасова пераносіць на другі план важнасць сакраманту сужэнства? Ён жа з'яўляецца жыццёвым наказам і адначасова стымулам, "каб з кожным днём сужэнцы імкнуліся да больш глыбокай повязі паміж сабой: на ўзроўні саюза цел, характараў, сэрцаў і імкненняў, саюза душ, паказваючы Касцёлу і свету новую камунію любові як дар ласкі Хрыстовай" (FC 19).

Акрамя гэтага зусім бяскрыўднага прыклада, існуе яшчэ мноства забабонаў, якія датычаць адзення маладых, заручальных пярсцёнкаў, надвор'я ў дзень вяселля, даты шлюбу і г. д. Так многія вераць, што сапраўднае сямейнае шчасце залежыць ад таго, у якім абутку пойдзе да алтара нявеста (раяць не абуваць басаножкі, бо праз дзіркі шчасце ўцячэ). Альбо шчыра радуюцца, калі падчас вяселля ідзе дождж (гэта значыць, што сям'я будзе жыць з пастаянным прыбыткам). І пры гэтым зусім забываюцца, што сапраўдным цэментам, які ўмацоўвае сям'ю, з'яўляецца любоў мужа і жонкі, пабласлаўлёная ў сакраманце.

Ніякая нумералогія, павер'і ці магія не змогуць зрабіць шчаслівым сумеснае жыццё, стаць дадатковым бонусам альбо паспрыяць дабрабыту, калі самі маладыя не будуць імкнуцца разумець адзін аднаго, саступаць адзін аднаму, працаваць над развіццём і ўмацаваннем сваёй сямейнай супольнасці, якая злучана моцай Божай.

Розныя вераванні, прыкметы і забабоны, прываблівающь перспектывай магчымасці беспраблемнага шляху да сваіх мар. Аднак, спрабуючы перахітрыць лёс і абмінуць крыж цярпенняў і няўдач такім спосабам, чалавек здзяйсняе грэх супраць першай запаведзі Божай – "Не май іншых багоў, апроч Мяне".

***Кінга Красіцкая***

● працяг у наступным нумары




***Будуць даследаваны "слёзы" статуі Панны Марыі***

***Дыяцэзія горада Фрэсна (ЗША) абвясціла аб даследаванні статуі Божай Маці з Гвадэлупы, якая, паводле сцвярджэння яе ўладальнікаў і сведкаў, "плача" на працягу паўтара года.***

*Вадкасць, падобная на слёзы, утвараецца ў правым воку і сцякае па твары фігуры. Яе ўладальніца Марыя Кардэнас паставіла шклянку пад тварам Багародзіцы, каб сабраць слёзы і дзяліцца імі з людзьмі, што прыходзяць пабачыць цуд. Статую Панны Марыі жанчына атрымала ў падарунак 10 гадоў таму з нагоды Дня маці. Аднак невытлумачальны феномен пачаўся нашмат пазней – пасля забойства яе стрыечнага брата.*

*Нягледзячы на тое, што сям'я Кардэнас не афішыруе свой адрас, усё ж гасцінна пускае ў дом тых, хто хоча ўбачыць Маці Божую, якая плача. Відавочцы сцвярджаюць, што "слёзы" цякуць няспынна, маюць масляністы характар і пахнуць ружамі.*




***Папа блаславіў абраз для беларускай парафіі***

***Падчас агульнай аўдыенцыі на плошчы св. Пятра папа Францішак блаславіў абраз св. Яна Паўла II для беларускай парафіі, якая носіць яго імя. Гэта дакладная копія кананізацыйнага абраза самага вядомага Пантыфіка XX стагоддзя. Сімвалічна, што падзея адбылася ў Дзень нараджэння святога.***

*Абраз напісаны італьянскай мастачкай Аннай Тэдальдэ-Рычонэ. У будучым ён будзе вісець у цэнтральным алтары яшчэ непабудаванага касцёла св. Яна Паўла II. "Я спадзяюся, што св. Ян Павел II заступіцца за нас перад Айцом Нябесным, бо ў Мінску сапраўды патрэбны новыя касцёлы", – паведаміў пробашч парафіі кс. Ігар Лашук.*

*Ідэя стварэння парафіі св. Яна Паўла II у Мінску з'явілася яшчэ ў 2011 г., а зарэгістравана была практычна на другі дзень пасля абвяшчэння яго блаславёным. Такім чынам, парафія стала адной з першых у свеце, якая носіць яго імя.*




***Набяры нумар да Пана Бога***

***Малітоўную тэлефонную лінію адкрыла супольнасць "Дом малітвы Вроцлаў 24".***

*У кожную сераду па канкрэтным нумары тэлефона даступны асобы, якія моляцца ў індывідуальных інтэнцыях тых, хто вырашыцца патэлефанаваць.*

*Супольнасць праводзіць штодзённую малітву ў многіх інтэнцыях, напрыклад, аб спыненні абортаў, выкананні Божага закона, супакоі ў свеце і г. д. З пэўнага часу да яе пачалі паступаць просьбы аб канкрэтных, прыватных справах.*

***Кінга Красіцкая***

# УЧЫНАК ДЛЯ ДУШЫ БЛІЖНЯГА. ЗНОСІЦЬ ЦЯРПЛІВА ЗНЯВАГУ




Чалавеку цяжка пагадзіцца з несправядлівасцю. Як правіла, у адказ на яе ўзнікае крыўда, абурэнне, пагарда. Горш таго, калі ў сэрцы нараджаецца жаданне адпомсціць, пакараць: на грубасць хочацца адказаць грубасцю, на дзёрзкасць – дзёрзкасцю. Але "не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром" (Рым 12, 21), – гаворыць у пасланні да рымлянаў апостал Павел.

Дадзеная праўда вынікае з закона любові да бліжняга, якая, згодна з Пісаннем, "усё пакрывае, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё пераносіць" (1 Кар 13, 7). Таму хрысціянін не можа судзіць тых, хто творыць несправядлівасць. Правасуддзе – выключная справа Бога.

Пад цяжарам крыўды часта здаецца, што Стварыцель пакінуў чалавека, дапусціўшы ў яго жыццё несправядлівасць. Узнікаюць пытанні: чаму гэта спаткала менавіта мяне? Дзе добры Бог, які гэта дазваляе? Варта памятаць, што Усявышні нікога не пакідае ў адзіноце. Бог справядліва кіруе ўсімі справамі і, значыцца, падобныя сітуацыі маюць месца ў жыцці чалавека. Пакуты і смутак, спакусы і выпрабаванні, гора, ганенні і пазбаўленні – усё гэта без выключэння садзейнічае дабру асобы пры ўмове супрацоўніцтва з Усемагутным. Любыя жыццёвыя абставіны – "супрацоўнікі" Божыя, таму іх трэба прымаць з мужнасцю.

Вялікую сілу набываюць тыя, хто годна прымае цяжкасці. Людзі, якія служаць Богу, ахвяруючы Яму свае цярпенні, умацоўваюцца ў іх і становяцца пераможцамі. Гэтаму спрыяе глыбока ўкаранёная ў сэрцы надзея, спалучаная з памяццю пра прысутнасць Усемагутнага ў кожнай хвіліне жыцця. Калі чалавек ведае, што можа схавацца ў абдымках Бога, яго не зламае ніякая людская навальніца.

Што значыць зносіць знявагу цярпліва? Значэнне слова "цярплівасць" ад грэчаскага 'hypomone' даслоўна азначае "застацца ніжэй", але адначасова значыць таксама "даказаць трываласць, адбіць атаку". Тут не маецца на ўвазе, што трэба заставацца раўнадушным да несправядлівасці, але нельга даць іншаму сябе раніць, нельга ўпусціць у сваё сэрца злосць. Цярплівы – гэта таксама той, хто спакойна зносіць нягоды і боль і ўмее пакорна чакаць, спадзеючыся на Божую дапамогу.

Езус неаднойчы чуў зняважлівыя абвінавачванні з боку праціўнікаў, але Ён ніколі не дазваляў апусціць сябе да ўзроўню, які тыя хацелі Яму навязаць. Як знявагу, аказаную Езусу, трэба ўспрымаць таксама ўцёкі вучняў з Гефсіманіі і адрачэнне Пятра ад Яго ў двары першасвятара Каяфы. Найбольшай знявагай была мука і бязлітасная смерць, перад якой прагучалі словы Укрыжаванага: "Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што робяць" (Лк 23, 34).

Найлепшы ўзор настойлівай цярплівасці – Бог. Нягледзячы на тое, што грахі людзей, якіх Ён стварыў, з'яўляюцца яўнай несправядлівасцю і крыўдзяць Яго, Бог не пакідае нікога з несправядлівых. Нават калі яны доўга трываюць у грахоўнасці, Ён заўсёды гатовы аказаць ім міласэрнасць. Бог цярпліва зносіць нявернасць, якая Яго крыўдзіць, пацвярджаючы сваю вернасць у нястомным здзяйсненні дабра і аказанні ласкі. Ён заклікае чалавека думаць пра Яго бязмежную любоў, каб напаўняцца пачуццём падзякі.

Як неабходна адказваць на знявагу? Маўчаннем і малітвай за крыўдзіцеляў.



Трэба таксама маліцца аб духу прабачэння і цярплівасці, паколькі самастойна чалавек не справіцца з такой вялікай задачай. Некаторым забыцца пра крыўду дапамагае думка, што іншыя церпяць мацней. А некаторыя "заглушаюць" свой боль праз добрыя ўчынкі церпячым. Цярпліва зносіць знявагу дапамагае чаканне будучай хвалы.

Вядома, трываць у цярпенні няпроста. Але калі Езус мог цярпець сярод абраных Апосталаў чалавека, які, як Ён ведаў, выдасць Яго, то з якой цярплівасцю нам варта ставіцца да тых, хто ў чымсьці вінаваты?

Любая несправядлівасць – гэта правакацыя. Людзі, вінаватыя ў несправядлівасці, звычайна гатовы да негатыўнай рэакцыі з боку крыўдзіцеля. Мяккасць жа і памяркоўнасць здольныя заспець іх знянацку. Добразычлівы дух у адказ на няправасць часта выклікае здзіўленне. Чалавек можа напоўніцца лепшымі памкненнямі і жаданнем перагледзець свае погляды на жыццё. На гэтым і палягае ўчынак міласэрнасці адносна душы бліжняга.

***Ангеліна Пакачайла***



**А. Яўген Голуб**

*З усіх учынкаў міласэрнасці гэты падаецца найпрацейшым да выканання, бо не трэба асабліва прыкладаць намаганні, каб знайсці магчымасць яго практыкаваць. Але адначасова з тым ён і неверагодна цяжкім, бо вядзе нас на "Эверэст" хрысціянскага жыцця, на вяршыню, што завецца ўменнем прабачаць. Цярплівае знашэнне знявагі – гэта плён адначасова і Божай ласкі, і вялікай, амаль альпіністычнай вытрымкі ў змаганні з уласным "я". Стараемся глядзець на жыццёвыя з'явы ды ўчынкі іншых у поўным святле і з розных бакоў, а не толькі са свайго абалелага пункту погляду. Імкнёмся трываць у праўдзе, што папулярна называецца хрысціянскай пакорай, рабіць малыя, але пэўныя крокі ў кірунку да поўнага прабачэння, якое больш звязана з воляй, чым з пачуццямі. Але перадусім даверымся Божай ласцы: Дух Святы і нас можа зрабіць падобнымі да Таго, хто маліўся за сваіх крыўдзіцеляў падчас уласнага Укрыжавання.*

**5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *У жыцці небяспечна кіравацца парывамі: яны зацямняюць розум.*
2. *Цярплівае перажыванне зняваг нараджае настойлівасць і аддаленне ад праблем.*
3. *Гэта шанс, каб скласці свой дух у рукі Айца.*
4. *Адказ дабром на зло – прыкмета не слабасці, а духоўнай моцы.*
5. *Перамога над самім сабой – найкаштоўнейшая.*

## Біскуп Аляксандр Кашкевіч асвяціў шпітальную капліцу

***Капліца Божай міласэрнасці ў Гарадской клінічнай бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі г. Гродна стане месцам сустрэчы закранутага хваробай чалавека з міласэрным Айцом.***

На св. Імшы ў капліцы сабраліся шматлікія госці, прадстаўнікі мясцовай улады, медыцынскі персанал і пацыенты бальніцы. Ва ўрачыстай падзеі ўдзельнічалі таксама ахвярадаўцы, дзякуючы якім стала магчымым набыццё для капліцы мэблі і літургічных рэчаў.

Капелан бальніцы кс. Генрых Яблоньскі, вітаючы прысутных гасцей, адзначыў, што "хворыя асабліва маюць патрэбу ў Божай міласэрнасці, і ў капліцы яны змогуць пазнаць гэты духоўны супакой і суцяшэнне ў цярпенні".



Біскуп Аляксандр Кашкевіч назваў вельмі сімвалічным тое, што ў Юбілейны год міласэрнасці ў Гродне асвяцілі капліцу Божай міласэрнасці. Іерарх пажадаў, каб яна служыла на карысць усім людзям, якія будуць яе наведваць.

## "Даверцеся Марыі, і вы ўбачыце, што такое цуды"

***Пад такім дэвізам ў парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні адбылася агульнабеларуская салезіянская ўрачыстасць Марыі Успамогі Хрысціян. На свята сабралася вялікая колькасць прадстаўнікоў Салезіянскай сям'і Беларусі.***

Самай важнай часткай святкавання была святая Імша, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB. У гаміліі іерарх распавёў гісторыю з'яўлення тытулу "Успамога Хрысціян". Біскуп таксама адзначыў, што Марыя Успамога адыграла вялікае значэнне ў жыцці св. Яна Боско.

Вялікай радасцю для Салезіянскай сям'і Беларусі стала прыняцце ў лік аніматараў 14 юнакоў і дзяўчат, якія жадаюць па прыкладзе Панны Марыі быць паслухмянай прыладай для адкрыцця Божай любові найбольш патрабуючым дзецям і моладзі. Напрыканцы святой Імшы Дочкі Марыі



Успамогі (сёстры салезіянкі) аднавілі свае манаскія абяцанні чыстасці, убоства і паслухмянасці.

Наступнай часткай праграмы святкавання быў мюзікл "Песня пра Марыю", які прадставілі дзяўчынкі з дзіцячага хору парафіі св. Міхала Арханёла.

## У Іўі памаліліся ў інтэнцыі нованароджаных дзяцей

***Падчас урачыстай св. Імшы ўсе дзеці атрымалі блаславенне ад святароў і медальёны на калясву.***

У маі, месяцы Марыі – Жанчыны свету, якая дае прыклад жыцця кожнай жанчыне, у касцёле святых апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі стала традыцыяй адпраўленне набажэнства за нованароджаных. Ініцыятарам і арганізатарам мерапрыемства з'яўляецца кс. Ян Гавецкі.

Сёлета падчас Імшы ўдзельнікі дзякавалі Богу Стварыцелю за дары мацярынства, любові і шчасця, маліліся аб здароўі і добрым лёсе для сваіх дзяцей, прасілі



ласкаў і апекі Маці Божай на кожны дзень жыцця.

## У парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні адбылася Першая Камунія

***Сёлета важная падзея адбылася ў жыцці 142 дзяцей парафіі.***

Св. Імшу цэлебраваў пробашч парафіі а. Алег Жураўскі SDB. Падчас гаміліі святар адзначыў, што, прымаючы Цела Хрыста, дзеці злучаюцца з Панам і Збаўцам.

Пробашч шчыра падзякаваў бацькам за дар жыцця і за тое, што выхоўваюць сваіх дзяцей у веры, а затым дадаў: "Вы споўнілі і далей спаўняеце тую прысягу, што некалі склалі падчас сакраманту хросту – дапамагаць гэтаму дзіцяці несці праз жыццё белую сукенку, сукенку Божага дзіцяці. І сёння, атрымліваючы гэтую асвячальную



ласку, не забывайце яе падтрымліваць".

## Вернікі Бярозаўкі падзякавалі пробашчу за служэнне

***Св. Імша, падчас якой парафіяне выказалі словы ўдзячнасці кс. Андрэю Стапуру, адбылася ва ўрачыстасць Спаслання Святога Духа. Набажэнства ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч.***

Іерарх адзначыў, што за 25 гадоў сваёй паслугі кс. Андрэй пабудаваў у Бярозаўцы не толькі касцёл у выглядзе прыгожай святыні, але і духоўную святыню ў душах мясцовых вернікаў.

З гамілiяй да вернікаў звярнуўся біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка, які падкрэсліў, што пад наглядам кс. Андрэя выспявалі святарскія пакліканні. Паводле слоў іерарха, заслуга ксяндза таксама ў тым, што ён дапамагаў увайсці ў святарскае жыццё семінарыстам, якіх гродзенскі ардынарый дасылаў да яго на практыку. "Ён не толь-



кі дзяліўся з імі сваім душпастарскім вопытам, але і клапаціўся пра іх духоўнасць і інтэлектуальнае развіццё", – адзначыў біскуп Дзям'янка.

## Семінарыйны гурт "AVE" выступіў з канцэртамі ў Германіі

***Падарожжа аднавіла духоўныя сілы семінарыстаў для далейшага здзяйснення Божых намераў у іх штодзённым жыцці і пакліканні.***

Гурт "AVE" на чале з прэфектам семінарыі кс. Андрэем Лішко наведалі з канцэртамі Дзюсельдорф і Дортмунд.

Музычныя сустрэчы ўжо сталі добрай традыцыяй за апошнія некалькі гадоў. Семінарысты яшчэ раз атрымалі магчымасць сведчыць песнямі і танцамі аб неспасцігальнай Божай любові ў іх жыцці.



## Папа Францішак прыняў на прыватнай аўдыенцыі Прэзідэнта Беларусі

***Сустрэча адбылася ў апостальскім палацы ў Ватыкане 21 мая. Аляксандр Лукашэнка і Святы Айцец абмеркавалі развіццё адносін Беларусі з Рыма-Каталіцкім Касцёлам.***

Кіраўнік беларускай дзяржавы прынёс у дар Пантыфіку копію крыжа Еўфрасінні Полацкай, выкананую з дапамогай унікальнай тэхнікі разьбы па дрэве, а таксама мадэль карэты, зробленую па той жа тэхналогіі, і галаграфічны абраз.

У сваю чаргу папа Францішак падарыў Прэзідэнту экземпляры энцыклік "Lumen Fidei" і "Laudato si'", а таксама Апостальскай адгартацыі "Amoris Laetitia". Яшчэ адзін падарунак Пантыфіка – мастацкая выява аліўкавага дрэва, якое з'яўляецца сімвалам міру.



Падчас сустрэчы Прэзідэнт запрасіў Святога Айца здзейсніць візіт у Беларусь.

Пасля аўдыенцыі ў Пантыфіка Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з Дзяржаўным Сакратаром Папы кардыналам П'етра Параліным.

## АНОНСЫ

# ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ БАЦЬКІ

***Урачыстасць адбудзецца 5 чэрвеня ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі ў Капцёўцы.***

**Праграма**

**7.00** – св. Імша ў францішканскім касцёле Маці Божай Анёльскай у Гродне;
**8.00** – выхад пілігрымкі з францішканскага касцёла;
**12.00** – пілігрымка прыходзіць у Капцёўку;
**12.00–13.00** – гарбата, адпачынак;
**13.00** – Вяночак да Божай міласэрнасці;
**13.15** – канферэнцыя для бацькаў, мужчын;
**14.00** – Крыжовы шлях вакол касцёла;
**15.00** – св. Імша за бацькаў (жывых і памерлых);
**16.30** – ад'езд аўтобусам у Гродна.

*Усіх сардэчна запрашае кусташ санктуарыя ў Капцёўцы кс. Міхал Ластоўскі.*



## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *Мінула 25 гадоў з дня ўзнікнення нашай дыяцэзіі. Калі Вы былі больш рэлігійныя?*




*Чарговае апытанне было прапанавана з нагоды 25-годдзя дыяцэзіі. Адказ на пытанне – гэта своеасаблівая ацэнка ўласнай веры. З дня заснавання дыяцэзіі мінула шмат часу. Мы перажылі мноства розных падзей. Большасць рэспандэнтаў сцвярджае, што іх вера ўзрастае і цяпер яны сталі больш рэлігійнымі.*

***Вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Вымярэнне рэлігійнасці ці, інакш кажучы, веры чалавека, – вельмі складаная справа, паколькі яна датычыцца асабістай сустрэчы чалавека з Богам, адкрыцця на Яго. Існуе вялікая колькасць навукоўцаў, у тым ліку і сацыёлагаў, а таксама шмат розных метадаў даследавання гэтай з'явы, дзякуючы чаму мы, як, напрыклад, у прыведзеным апытанні, можам даведацца, якой з'яўляецца наша вера і наколькі мы рэлігійныя. Вынікі апытання з нагоды 25-годдзя дыяцэзіі сведчаць пра тое, што вера нашых рэспандэнтаў становіцца ўсё мацнейшай. Гэта зусім не здзіўляе. Духоўнае развіццё чалавека, прарастанне веры ў нашых сэрцах вельмі важныя. Мы павінны стараццa, каб вера прыносіла плады і мы маглі перадаць яе наступным пакаленням.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**1 чэрвеня 1964 г.** – кс. Францішак Кафарскі, *проб. Іўе;*
**6 чэрвеня 2015 г.** – кс. Ян Занеўскі, *проб. Квасоўка;*
**8 чэрвеня 1981 г.** – а. Юзаф-Мар'ян Марсангер SJ, *проб. Солы;*
**10 чэрвеня 1998 г.** – а. прэлат Міхал Варанецкі CM, *ген. вік., Гродзенская ВДС.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




***Гэта апошняя з пяці абмяркоўваемых на старонках "Слова Жыцця" ўмоў, неабходных для добрай і плённай споведзі. Святы Ян Павел II у адгартацыі "Reconciliatio et Paenitentia" падкрэсліў, што абавязак кампенсацыі і загладжвання віны вынікае, у першую чаргу, з любові, а таксама са справядлівасці. Кожны, хто глыбей зразумее сутнасць сваіх грахоў, якія прывялі Езуса да мукі і смерці на крыжы, і тое, якое вялікае зло яны ўчынілі бліжнім, адразу ж адчуе ў сэрцы абавязак не толькі змянення ўласнага жыцця, але таксама загладжвання віны. Без спробы кампенсаваць абразу, якую мы нанеслі Богу, і крыўду, якую праз свае грахі ўчынілі бліжнім, сакраментальнае навяртанне не было б поўным і эфектыўным.***

# Выкананне прызначанай пакуты і кампенсацыя бліжнім

*А. д-р Андрэй Шчупал CSsR*

*Частка I*

Каб лепш зразумець абавязак выканання пакуты пасля споведзі, прыгадайма вядомы фрагмент з Евангелля. "І калі Езус уваходзіў у адну вёску, сустрэлі Яго дзесяць пракажоных, якія, стаўшы здалёк, моцным голасам казалі: «Езус, Настаўнік, змілуйся над намі!». Убачыўшы іх, Ён сказаў ім: «Ідзіце, пакажыцеся святарам». А калі адышлі, яны ачысціліся. І адзін з іх, убачыўшы, што быў вылечаны, вярнуўся і моцным голасам праслаўляў Бога, і, упаўшы ніцма да ног Яговых, дзякаваў Яму. А быў гэта самаранін. Тады Езус сказаў: «Ці не дзесяць было ачышчаных? Дзе ж дзевяць? Не знайшлося нікога, хто б вярнуўся праславіць Пана, акрамя гэтага чужынца?». І сказаў яму: «Устань, ідзі; вера твая ўратавала цябе»" (Лк 17, 12–19). Праказа цела сімвалізуе праказу душы – грэх. Толькі адзін з аздароўленых прыходзіць падзякаваць Богу за такі вялікі дар. Аднак Хрыстос пытаецца пра астатніх, чаму яны не выразілі сваёй удзячнасці Богу.

Мы таксама адразу ж пасля споведзі павінны падзякаваць Богу за адпушчэнне грахоў. Вельмі балюча і трывожна бачыць, як хтосьці адразу пасля атрымання сакраментальнага прабачэння грахоў хутка выходзіць з касцёла і не знаходзіць ні хвіліны часу, каб упасці на калені і ў пакоры выразіць Езусу сваю ўдзячнасць і любоў, падобна як дзіця дзякуе сваёй маме за атрыманы падарунак, сардэчнасць і прабачэнне.

Кампенсацыю як канечны акт споведзі часта называюць таксама выкананнем прызначанай пакуты. Яна мае дзве мэты. Першая з іх – кампенсацыйная. Але мы павінны ўсведамляць, што адзін людскі ўчынак не здольны кампенсаваць Богу тое, што чалавек знішчыў сваім грахом. Гэта здзейсніў Хрыстос ад нашага імя сваёю мукай і смерцю на крыжы. Праз сваю пакуту мы толькі далучаемся да кампенсацыі, заплачанай Езусам. Нашы пакаянныя ўчынкі, далучаныя да пакуты і кампенсацыі Хрыста, атрымліваюць асаблівае значэнне, паколькі становяцца дапаўненнем Яго цярпенняў у членах Касцёла, якія з'яўляюцца Целам Хрыста (параўн. Кал 1, 24). Другую ж мэту пакуты называюць тэрапеўтычнай. Яна заключаецца ў тым, што праз выкананне прызначанай пакуты мы далучаемся да пераадолення прычын, якія вядуць да граху. Да такіх прычын могуць належаць укаранёныя дрэнныя звычкі і залежнасці, а таксама спакуслівыя нагоды для граху: такія, як пэўныя асобы, падзеі, рэчы, фільмы, часопісы і да т. п.

Эфектыўнасць сакраманту пакаяння цесна звязана з цнотай пакуты, гэта значыць, з пастаяннай наяўнасцю ўнутранага жалю за ўчыненыя грахі. Паводле св. Тамаша Аквінскага, чалавек павінен шкадаваць і адчуваць душэўны боль з-за ўчыненага граху да канца свайго жыцця. Сутнасць цноты пакуты палягае на асуджэнні абразы, нанесенай Богу, а яе плёнам з'яўляецца жаданне і кампенсацыі Богу праз вядзенне лепшага і стараннага рэлігійнага жыцця, розныя пакаянныя ўчынкі і нястомнае чуванне, каб зноў не трапіць у мінулыя грахі.

● *праця ў наступным нумары*



*Кс. Андрэй Лішко*

## *Ці мае святар права спыніць споведзь?*

*Напэўна, кожны, хто прыходзіць у Божы храм ці проста на размову са святаром, мае свае праблемы, цяжкасці, і, верагодна, шукае ласкі, парады, каб выйсці з крызісу, дапамогі, а можа, проста хоча "выліць душу", штосьці распавесці, даверыцца, знайсці душэўны супакой. Сітуацыя, калі святар можа не адпусціць грахі і спыніць споведзь, сапраўды можа існаваць.*

*Ёсць выпадкі, калі святар зразумеў, што не здзейснена нейкая з умоў добрай споведзі (іх 5). Напрыклад, хтосьці не мае жалю за свае грахі, абыякавы або жыве ў грамадзянскім шлюбе, без вянчання, таму не зможа выканаць пастанову паправы. Тады святар можа не адпусціць грахі, але павінен усё падрабязна растлумачыць.*

*У некаторых выпадках святар можа, а нават і павінен спыніць споведзь. Многія маладыя па гадах святарства ксяндзы (у нашай дыяцэзіі – да года святарства) не могуць "пры звычайных абставінах" адпусціць некаторыя грахі (напрыклад, грэх аборту). Ёсць грахі, якія можа адпускаць толькі біскуп (напрыклад, фармальнае адступленне ад веры). Таму калі спавядае малады святар, які не мае юрысдыкцыі да адпушчэння таго ці іншага граху, то ён павінен ветліва і дакладна растлумачыць, што не можа адпусціць грахоў, і скіраваць пэнітэнта да іншага святара. Але калі існуе пагроза для жыцця ці іншыя падобныя абставіны, нават малады святар можа адпусціць гэтыя грахі.*

*Ёсць грахі, якія, паводле Кодэкса кананічнага права, могуць быць прабачаны толькі Апостальскай Сталіцай (EKSKOMUNIKA latae sententiae). У гэтым выпадку святар павінен спыніць споведзь, растлумачыць пэнітэнту сутнасць справы або прапанаваць яму сумесна напісаць спецыяльны ліст у Апостальскую пэнітэнцыярыю. Пасля атрымання адказу патрэбна дамовіцца з пэнітэнтам аб сустрэчы на яшчэ адну споведзь.*

***Кожная споведзь – гэта індывідуальная і асабістая справа. Таму вельмі важна рыхтавацца да сакраманту пакаяння і паяднання як пэнітэнту, так і святару.***

***паводле grodnensis.by***

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ



# "Па-сямейнаму ў Духа"

15 мая, ва ўрачыстасць Спаслання Святога Духа, у гродзенскай парафіі Святога Духа на Альшанцы адбыўся парафіяльны фэст. Дзякуючы душпастарскім намаганням пробашча парафіі кс. Паўла Салабуды, свята прайшло ў цёплай сямейнай атмасферы.

У межах фэсту была адпраўлена ўрачыстая св. Імша. Разам з біскупам Юзафам Станеўскім вернікі памаліліся ў інтэнцыі дзяцей, якія летась упершыню прынялі святую Камунію. Таксама падчас свята ўпершыню выступіў дзіцячы ансамбль "Анёлы".











# Пра кроціка Здзіся

*Жыў-быў кроцік па імені Здзісь, у якога былі вельмі хворыя ногі. Ён заўсёды з зайздрасцю назіраў за іншымі звяркамі, якія маглі бегаць, бавіцца і скакаць. А кроцік сядзеў у куце, і тады ніхто не бачыў вялікіх слёз, якія цяклі з яго вачэй. Аднойчы, калі вавёркі, лісічкі, кроцікі і зайчыкі як звычайна весела гулялі, прыляцела мудрая сава. Птушка заўважыла маленькага звярка, які сядзеў у кутку пад дрэвам і плакаў. Ёй зрабілася шкада Здзіся. Сава села побач з ім на шырокай галіне і сказала:*

*– Здзісь, не плач, яшчэ ж не ўсё страчана. Я чула пра ўрача, які лечыць ногі. Але ён жыве вельмі далёка адсюль, і трэба яго шукаць. Калі б ты з ім сустрэўся, ён, напэўна, вылечыў бы цябе.*

*Мудрая сава сказала, што гэта незвычайны ўрач. А калі так, то не было чаго вагацца. І Здзісь вырашыў паспрабаваць.*

*– Калі гэты ўрач мне не дапаможа, – мармытаў сабе пад нос кроцік, – то гэтага ўжо ніхто больш не зробіць.*

*Як толькі надышоў вечар, Здзісь выбраўся з норкі і пакульбаў у падарожжа. Ногі вельмі балелі. Ён перасоўваўся павольна і часта вымушаны быў адпачываць. Часам Здзісь ажно сціскаў ад болю зубкі, але, нягледзячы на гэта, ішоў далей.*

*Па дарозе ён пытаўся ў звяроў, ці не бачылі яны гэтага незвычайнага доктара. Некаторыя казалі, што Вялікага Лекара не існуе, іншыя паказвалі памылковы напрамак. Урэшце кроцік ужо сапраўды не ведаў, куды ісці. Ён з сумам звесіў галоўку, сеў у роспачы пад дрэвам і пачаў плакаць. Раптам Здзісь пачуў шум крылаў савы.*

*– О, ты тут! Ты знайшоў Вялікага Лекара? – запыталася сава.*

*– Не. І я не ведаю, дзе яго шукаць, – адказаў кроцік.*

*Тады сава са здзіўленнем паглядзела на ногі звярка.*

*– Але табе ўжо не патрэбны ўрач! Твае ногі здаровыя, толькі слабаватыя. Шукаючы Лекара, ты трэніраваў мышцы ног, нягледзячы на боль. Гэтыя практыкаванні дапамаглі табе! Як жа гэта дзіўна! Як незвычайна!*

*І сапраўды, кроцік мог хадзіць усё даўжэй і далей, а боль станавіўся ўсё меншым. Хутка Здзісь ужо мог без перашкод бавіцца са сваімі ляснымі сябрамі.*

*Ці добра зрабіў кроцік, адпраўляючыся на пошукі Лекара?*
*Што было б, каб ён застаўся ў норцы?*
*Ці здаралася Табе рабіць штосьці, што здавалася непатрэбным?*

*Як Ты разумееш словы:*
*"Часам дастаткова шукаць, і тое, чаго мы шукаем, будзе нам дадзена ў дарозе, ціха і незаўважна".*

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды 25-й гадавіны біскупскай паслугі ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў: моцнага здароўя на кожны дзень, каб яшчэ доўгія гады кіраваць нашым мясцовым Касцёлам, сіл і стойкасці, каб супрацьстаяць выклікам сучаснага свету, нястомнай радасці, каб цешыцца з плёну сваёй паслугі, мудрасці, каб паспяхова пераадольваць перашкоды, якія на шляху да святасці расстаўляе злы, а таксама душэўнага супакою, аптымізму, нязгаснага запалу веры і любові. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваім благаслаўленнем, а Маці Божая ўзмацняе і апекуецца Вамі.

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды юбілею біскупскага пасвячэння складаем сардэчныя пажаданні. 25 гадоў служэння – гэта 25 гадоў малітвы і ахвярнай працы. Гадавіна – добрая магчымасць для радасці і ўдзячнасці. Менавіта таму мы дзякуем усемагутнаму Богу за тое, што выбраў Вас нашым біскупам. Дзякуем Вам за настойлівасць у веры і ў нясенні Божага слова ўсім людзям. Жадаем Вам заўсёды быць поўным святла і моцы Духа Святога. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе бласлаўлёны, сэрца няхай напоўніцца сапраўднай радасцю, а штодзённае пастарскае жыццё будзе сонечным і шчаслівым. Жадаем таксама ўсіх Божых ласкаў і апекі Маці Божай Кангрэгацкай. Няхай Дух Святы ніколі не пакідае Вашае сэрца, а Збаўца вядзе па прыгожым, хоць і цяжкім, шляху пастарскага служэння.

*З малітвай Апостальства "Маргарытка"*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Бог адорвае Вас патрэбнымі ласкамі, Маці Божая апекуецца, а святы Заступнік будзе побач у цяжкія хвіліны жыцця. Жадаем нязгаснага запалу ў душпастарскай працы, усмешкі на твары, сіл і натхнення ў службе Богу і людзям. Дзякуем за клопат аб нашай святыні, добрае слова, увагу і чуласць. Шчасці Божа!

*Вернікі з пар. Найсвяцейшай Панны Марыі, Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Лісоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні здароўя, поспехаў і нястомнасці ў святарскай паслузе, Божага бласлаўлення і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая Шкаплерная ахінае Вас плашчом сваёй мацярынскай апекі і любові. Ад усяго сэрца дзякуем за мудрыя павучанні, прыклад веры і адданую душпастарскую працу.

*Дзеці і моладзь з пар. Найсвяцейшай Панны Марыі, Вярэйкі*

**Паважанаму Ксяндзу Міхалу Васількевічу**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе напоўнены Божым бласлаўленнем, радасцю і супакоем, а дабрыня і зычлівасць, якія Вы дорыце людзям, няхай заўсёды да Вас вяртаюцца. Заўсёды будзьце для нас прыкладам моцнай веры і пабожнасці. Дзякуем Вам за ўсё. Шчасці Божа!

*Парафіяне з касц. св. Альжбеты Венгерскай і Божай Міласэрнасці ў Падароску*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Шэмету**

з нагоды чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, бласлаўляе кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Жадаем сапраўднай радасці і супакою, а таксама дзякуем за шчырую малітву і ахвярную працу.

*З малітвай вернікі з пар. Гродна-Аўгустовак*

**Паважанай Спадарыні Тэрэзе Пятроўне Сідаровіч,**

актыўнай парафіянцы з касцёла Божай Міласэрнасці ў Гродне, перасылаю найлепшыя пажаданні з нагоды Дня нараджэння. Жадаю добрага здароўя на доўгія гады, поспехаў і радасці ў жыцці, апекі Маці Божай і Божага бласлаўлення.

*Лёля*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, поспехаў у душпастарскай працы, апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай Пан Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а Ваша жыццё будзе шчаслівым і бласлаўлёным.

*З памяццю ў малітве вернікі з в. Мештуны*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Рэйшалю**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, добразычлівых людзей побач, душэўнага супакою і няспыннай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом і адорыць усімі ласкамі, каб Вы маглі шчасліва выконваць сваю паслугу і радаваць усіх сваёй усмешкай. Шчасці Божа!

*Вернікі з в. Скярсі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рэйшалю**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе для Вас поўны шчасця, душэўнага супакою, нязгаснага аптымізму, а галоўнае – будзе моцным здароўе. Няхай добры Бог бласлаўляе Ваш святарскі шлях, дадаючы сілы, цярплівасці ў працы і мудрасці ў абвяшчэнні Яго слова. Найсвяцейшая Панна Марыя няхай адорвае Вас ласкавасцю і шчодрасцю свайго сэрца. Дзякуем за малітвы і павучальныя казанні, праз якія мы мацней адчуваем прысутнасць Бога і наша паяднанне з ім. Дзякуем за дабрыню і сардэчнасць, якія Вы дорыце нам пры сустрэчах, за бадзёры настрой і добрае пачуццё гумару.

*З павагай вернікі з капл. Ліпічна*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Эйсманту**

з нагоды 3-й гадавіны святарства ад усяго сэрца перасылаем букет найлепшых пажаданняў: добрага здароўя, сіл, радасці, шчодрых дароў Святога Духа, добразычлівых людзей побач. Няхай святы Заступнік абараняе Цябе ў розных жыццёвых сітуацыях і дапамагае ў вучобе і працы, а Маці Божая нястомна Табой апекуецца. Няхай Божы Провід чувае над Табой, а кожны дзень будзе шчаслівы і бласлаўлёны.

*Любячыя бацькі*

**Паважанаму Айцу Андрэю Ядкоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя сардэчныя пажаданні. Няхай Езус, якога Вы кожны дзень трымаеце ў сваіх далонях, бласлаўляе Вас на святарскім шляху, а Маці Божая абараняе мацярынскай любоўю і атуляе сваёй апекай. Дзякуем Вам за шчырую малітву, мудрыя парады, за цярплівасць і добразычлівасць да людзей. Шчасці Божа!

*Вернікі з пар. Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Каханаму сыну Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды 8-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення на кожны дзень, няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, душэўнага супакою, радасці ад выконваемай паслугі, а таксама здароўя, стойкасці і моцы на нялёгкім святарскім шляху.

*Мама і тата*

**Дарагому Ксяндзу Здзіславу Вэдэру**

з нагоды 54-й гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог, якому Вы даверыліся, адорвае Вас здароўем і ўсімі ласкамі, кожны дзень прыносіць радасць у служэнні Богу і людзям, а наш Збаўца Езус Хрыстус і Яго любімая Маці Марыя апекуюцца Вамі і спадарожнічаюць на святарскім шляху. Мы заўсёды памятаем пра Вас у малітве!

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Артуру Валчкевічу**

з нагоды 5-годдзя святарскіх пасвячэнняў ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, поспехаў у душпастарскай працы і добразычлівых людзей побач. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за ўсе намаганні, клопаты і працу, якія Вы прыкладаеце, каб наблізіць нас да Айца. Шчыра дзякуем Вам за святарскую паслугу, Божае слова, якое Вы нам абвяшчаеце, за малітву і добрае сэрца.

*Вернікі з пар. св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2689; тыраж 5100; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная